# Весткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"*

**Viestki j Paviedamlenni**

Сусьветнае сеціва: *e-krama.com, www.pahonia.org*
Электронны адрас: *viestki@mail.com*
✉ *VIESTKI, P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

**№ 9 (571)**
**Верасень 2013 г.**


## Беларусь – Амэрыка: лёсы землякоў

# Грамадзкі дзеяч і гісторык Вітаўт Тумаш (1910-1998)



Грамадзкі і палітычны дзеяч, гісторык і скарыназнаўца Вітаўт Тумаш нарадзіўся 20 сьнежня 1910 году ў вёсцы Сьпягліца на Вялейшчыне ў каталіцкай сялянскай сям'і. Вёска і яе ваколіцы мелі выразную беларускую сьведамасьць, мажліва дзеля таго, што парафію, да якой належала Сьпягліца, узначальвалі нацыянальна вызначаныя ксяндзы, і ў тым ліку кс. Вінцук Гадлеўскі. Падчас Першай Сусьветнай вайны сям'я была ў бежанстве на абшары этнічнай Летувы, і з таго часу, зь летувіскіх школаў, Вітаўт Тумаш меў веды летувіскай мовы, што пазьней прydaліся для правядзеньня дасьледаў у галіне гісторыі й культуры.

У канцы 1920-х гадоў Тумаш атрымаў адукацыю ў Віленскай Беларускай гімназіі, дзе адным зь ягоных настаўнікаў быў Вінцэнт Жук-Грышкевіч, выпускнік Карлавага ўнівэрсытэту ў Празе, што захапіў Тумаша гуманізмам эпохі Адраджэньня і выклікаў цікавасьць да Францішка Скарыны. Па сканчэньні гімназіі Тумаш паступіў студыяваць мэдыцыну ва Ўнівэрсытэт Сьцяпана Батуры ў Вільні. У студэнцкія гады Вітаўт Тумаш браў актыўны ўдзел у беларускім нацыянальным і культурніцкім руху, у дзейнасьці Беларускага Студэнцкага Саюзу (БСС) ў Вільні.

Важнай старонкай дзейнасьці Тумаша было аднаўленьне Таварыства Беларускай Школы, якое ў свой час перанялі камуністы, а тады польскія ўлады зачынілі ТБШ як "камуністычную арганізацыю". Паколькі БСС належаў да ўнівэрсытэцкай аўтаноміі й ня быў наўпрост у юрысдыкцыі шавіністычных паліцыйных уладаў, супольна актывісты беларускага студэнцтва і дзеячы Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі аднавілі арганізацыю, якая папоўнілася сьведамымі працаўнікамі-студэнтамі М. Шчорсам, В. Войтанкам, Д. Аніськам ды інш., а В. Тумаш стаў віцэ-старшынём (Ф. Стэцкевіч – старшынём, Р. Шырма – сакратаром).

Падчас свайго студэнцтва Тумаш цікавіўся ня толькі мэдыцынай, але і шырэйшымі беларускімі досьледамі. Ён узначальваў Таварыства Прыяцеляў Беларусаведы і шмат публікаваўся па пытаньнях гісторыі й культуры Беларусі. У Віленскі пэрыяд жыцьця Тумаш сябраваў зь літаратарамі Заходняй Беларусі: М. Машарам, Н. Арсеньневай, Х. Ільляшэвічам і, асабліва, з Максімам Танкам, і браў актыўны ўдзел у падрыхтоўцы і рэдагаваньні выдадзеных да вайны паэтычных зборнікаў М. Танка "На этапах", "Нарач", "Журавінавы цьвет", "Пад мачтай".

Неўзабаве пасьля сканчэньня ўнівэрсытэту і выбуху Другой Сусветнай вайны малады доктар Вітаўт Тумаш разам з доктарам Міколам Шчорсам трапіў у Лодзь, дзе стаў працаваць лекарам і пазьней узначаліў Беларускі Камітэт у Ліцманштаце (назва Лодзі пад нямецкай акупацыяй). Тумаш навязаў супрацоўніцтва зь беларускімі арганізацыямі у Польшчы ("Гэнэрал-Губэрнатарства"), друкаваўся ў тамтэйшых беларускіх выданьнях. У той час у Лодзкай гімназіі працаваў Радаслаў Астроўскі, зь якім В. Тумаш меў кантакт, і якога немцы вылучылі, дзякуючы ягоным арганізацыйным здольнасьцям, на будучага цывільнага кіраўніка акупаваных беларускіх абшараў. Таму калі пасьля пачатку савецка-нямецкай вайны Р. Астроўскі ўлетку 1941 г. стаў кіраўніком Менскай акругі, ён прызначыў Вітаўта Тумаша бурмістрам – кіраўніком менскай гарадзкой адміністрацыі. Па другой вэрсіі, ён быў прымушаны пераняць пасаду пад ціскам і пасьля тыднёвага хатняга арышту.

Тумаш вызначыўся на гэтай пасадзе хуткім аднаўленьнем пашкоджанай камунальнай інфраструктуры, а таксама разбудовай нацыянальнага жыцьця, у тым ліку беларускага школьніцтва, друку, справаводзтва. Дзякуючы рашучым дзеяньнямі Тумаша, у Менску і ваколіцах было спыненае пашырэньне эпідэміяў.

Падчас тых некалькіх месяцаў, што Тумаш быў менскім бурмістрам, у горадзе было створанае гета для гэбраяў, а ў лістападзе адбылася першая буйная акцыя вынішчэньня. Ня выключана, што менавіта як пратэст супраць гэтага, Тумаш ў лістападзе 1941 году пакінуў пасаду бурмістра і пераехаў у Лодзь. Ня гледзячы на тое, што як цывільны бурмістар, Тумаш ня мог ажыцьцяўляць, а тым болей ініцыяваць акцыяў генацыду, савецкая прапаганда зрабіла зь яго і з Станіслава Станкевіча "ахвярных казлоў", што нясуць адказнасьць за Галакост у Беларусі. Асаблівае значаньне для Саветаў мела тое, што В. Тумаш, Р. Астроўскі, В. Станкевіч ды іншыя нацыянальныя дзеячы ўспрымаліся як патэнцыйная альтэрнатыва савецкаму ладу. І таму абвінавачаньні ў калябарацыі, а галоўнае – у вайсковых злачынствах былі зручным інструмэнтам для дыскрэдытацыі ня толькі паасобных дзеячоў выеннага пэрыяду, але беларускага нацыянальнага руху на-

***Заканчэньне на бачыне 3***

# Жнівеньскі сход Згуртаваньня "Пагоня"

У суботу 10 жніўня ў Сэнтрал Парку прайшоў чарговы жнівеньскі сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня "Пагоня". Надвор'е выдалася цудоўнае, зьзяла сонца, але не было сьпёкі. Збор удзельнікаў быў пры 72-й вуліцы на 5-й авэню. Затым усе прайшлі да мясьціны пры Бэтэзда-фантане каля сажалкі.

Напчатку сходу старшыня Згуртаваньня сп. Віталь Зайка распавёў пра падзеі ў Беларусі і спыніўся на канфіскацыі сьвіньняў з прыватных гаспадарак пад прэтэкстам "афрыканскай чумы" ў сьвіньняў. Мясцовыя ўлады праводзяць прымусовую "ўтылізацыю" з падворкаў грамадзянаў. Працягваецца супрацьстаяньне Лукашэнкі й Расеі ў галіне калійных угнаеньняў. Лукашэнка не паехаў у Кіеў на цырымонію адзначэньня 1025-годзьдзя Хросту Русі з удзелам сьвецкага і духовага кіраўніцтва Украіны й Расеі, экспэрты спрабуюць вытлумачыць гэтаціскам на Пуціна.

Затым адбылася сяброўская гутарка сяброў арганізаці й гасьцей па разнастайных пытаньнях беларускага грамадзкага жыцьця ў Амэрыцы, а таксама аб працы арганізацыі , і як яе сябры бачаць шляхі паляпшэньня арганізацыйнай працы.

У нефармальнай атмасфэры кожны з прысутных распавёў пра сябе, пра тэмы вартыя ўвагі, пра свае пажаданьні й прапановы адносна працы Згуртаваньня "Пагоня". Сп. Віталь Зайка пачаў зь сябе, сказаў аб сваёй асноўнай працы па спэцыяльнасьці (архівіст) і коратка распавёў пра Згуртаваньне "Пагоня" і асноўныя кірункі ягонай дзейнасьці.

Сябар управы сп. Яўген Барысевіч распавёў пра імпрэзу ў Вашынгтоне каля будынку Міжнароднага Валютнага Фонду (МВФ) 20 ліпеня сёлета, калі прадстаўнікі "Пагоні", поруч з прадстаўнікамі Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня і арганізацыі "Беларусы ў экзылі" правялі акцыю пратэсту супраць крэдытаваньня рэжыму Лукашэнкі ў Беларусі праз МВФ ды іншыя міжнародныя арганізацыі. Асабліва адзначалася форма правядзеньня акцыі – пратэстуючыя ў белых вопратках з маскамі дыктатара Лукашэнкі трымалі плякаты з надпісамі "Дайце грошай на КГБ!"; "Патрэбна фінансаваньне, каб сачыць за студэнтамі"; "Трымаць вязьняў у турмах каштуе грошай!"; "Дыктатура – рэч дарагая". У імпрэзе браў удзел старшыня Беларускага Народнага Фронту і Партыі КХП-БНФ сп. Зянон Пазьняк. Сп. Барысевіч распавёў аб плянах правесьці маладзёвую імпрэзу ў другой палове верасьня.

Прысутныя па чарзе коратка расказвалі пра сябе, выказвалі свае думкі, прапановы, пажаданьні. Шмат прамоўцаў закраналі тэму юрыдычнай дапамогі, а дакладней, інфармаваньня ў справе кампэтэнтных юрыстаў і таго, як яны ставяцца да ўзятых на сябе абавязкаў.

Затым да грамады далучыўся кіраўнік арганізацыі "Беларусы ў экзылі" сп. Зьміцер Шчыгельскі, які коратка распавёў пра сваю арганізацыю і пра плянуемыя супольна з іншымі беларускімі арганізацыямі, у тым ліку з "Пагоняй", акцыі пратэсту. Сярод іх: пратэст супраць удзелу Дойчэ Банку ў супрацоўніцтве зь дзяржаўнай Беларускай калійнай кампаніяй і акцыя "Не рабіць падарункаў дыктатару" перад офісамі нью-ёрскіх кангрэсмэнаў і сэнатараў, прымеркаваная да Лукашэнкавага афіцыйнага дня народзінаў 31 жніўня. Дадаткова інфармацыя будзе разьмешчаная ў сеціве.

Пасьля афіцыйнай часткі прысутныя працягвалі калегаваньне на цудоўным улоньні прыроды ў Сэнтрал Парку.

**Віталь ЗАЙКА**



*Заканчэньне з бачыны 1*

агул. Гэты інструмэнт дасюль актыўна выкарыстоўваецца постсавецкімі антынацыянальнымі сіламі ў сёнешняй Беларусі.

Далей у часе вайны Вітаўт Тумаш працаваў у шпіталях у Лодзі. Ён рэдагаваў газэту "Раніца", што выходзіла ў Бэрліне і была культурніцкім асяродкам для беларусаў у Нямеччыне. Вітаўт Тумаш браў актыўны ўдзел у беларускім грамадзкім жыцьці, дапамагаў остарбайтарам і ўцекачам зь Беларусі. Ён заахвочваў і падтрымліваў паэтычную творчасьць Ларысы Геніюш і стаў рэдактарам ейнага паэтычнага зборніку "Ад родных ніў" (Прага, 1942 г.).

Пасьля сканчэньня Другой Сусветнай вайны доктар Вітаўт Тумаш працаваў лекарам у некалькіх ДП-лягерох, у тым ліку ў беларускім ДП-лягеры Ватэнштэт. Тумаш удзельнічаў у шматлікіх культурніцкіх і палітычных пачынаньнях як лягеру, гэтак і беларускай эміграцыі ўвогуле. У Нямеччыне В. Тумаш зарганізаваў "Згуртаваньне Беларусіх Лекараў на Чужыне", выдаваў часапіс Згуртаваньня; там узьнікла ў яго думка закласьці беларускую навукова-дасьледчую арганізацыю. Ужо пазьней, у Амэрыцы, гэта зьдзейсьнілася ў форме Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва (БІНіМ), заснавальнікам якога і рухаючай сілай быў даўжэйшы час менавіта Вітаўт Тумаш.

У 1950 годзе В. Тумаш перабраўся ў ЗША, дзе працаваў у Нью-Ёрку лекарам, перш у шпіталі Фордам-унівэрсытэту, а потым у іншых гарадзкіх шпіталях. Увесь вольны час ён аддаваў грамадзкай і навуковай дзейнасьці. Як старшыня Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва доктар Вітаўт Тумаш быў выдаўцом і галоўным рэдактарам публікацыяў Інстытуту – навуковага часапісу "Запісы" й літаратурнага часапісу "Конадні". На працягу свайго жыцьця Тумаш рэдагаваў разнастайныя беларускія выданьні, улучна з газэтай "Беларус". Вітаўт Тумаш стаў рэдактарам "Беларуса" ў складаны для газэты час і, фактычна, аднавіў выданьне напачатку 1960-х гадоў, калі газэта на нейкі час перастала выходзіць. За тыя некалькі гадоў, калі В. Тумаш ўзначальваў рэдакцыю, газэта набыла новых сілаў, энэргіі – і падтрымкі чытачоў і ўсёй беларускай грамады ў Амэрыцы й па-за Амэрыкай. Тумаш быў аўтарам незьлічонай колькасьці артыкулаў і нататак у беларускім друку, часта пад псэўдонімамі. Асабліва шмат ягоных артыкулаў было ў газэтах "Бацькаўшчына" і "Беларус".

Справай жыцьцёвага захапленьня Вітаўта Тумаша была беларуская гісторыя, адшуканьне гістарычнай праўды, што нішчылася й замоўчвалася пад савецкім панаваньнем. Другой вялікай тэмай было скарыназнаўства, жыцьцё і дзейнасьць Францішка Скарыны, у досьледах якога Тумаш зрабіў шэраг важных знаходак і адкрыцьцяў. На эміграцыі Тумаш жыў пакінутай Бацькаўшчынай і дзеля яе працаваў. Ён разумеў, што ў барацьбе за мінулае Беларусі вырашаюцца лёсы ейнай будучыні. Ён уважліва сачыў за новымі выданьнямі з БССР і глыбока пераймаўся выхадам кожнай новай кнігі па гісторыі ці культуры, выкрываў замоўчваньні і фальшаваньні ў савецкіх трактоўках беларускай гісторыі, сам слугаваў ёй аддана да апошніх дзён. У вялікай меры з ініцыятывы доктара В. Тумаша ў БІНіМе распрацоўваліся праблемы паходжаньня беларусаў, беларускай ваеннай гісторыі, саветызацыі беларускай літаратуры.

Вітаўт Тумаш быў аўтарам працаў пра балцкія рысы ў этнагенэзе беларусаў, пра беларускую этнічную тэрыторыю, пра паходжаньне назвы "Белая Русь", пра розныя аспэкты гісторыі Вялікага Княства Літоўскага, пра гістарыяграфічную канцэпцыю В. Ластоўскага ды шмат што іншае. Зьяўляючыся непрафэсійным гісторыкам у сэнсе фармальным, Тумаш дасягнуў найвышэйшага ўзроўню прафэсіяналізму і прызнаньня, асабліва ў галіне скарыніяны.

Менавіта В. Тумаш прыцягнуў увагу да памылкі ў копіі граматы, што стала падставаю для прыдуманага імя Скарыны – "Георгі", якое нядбайны пісар паставіў, перайначыўшы слова egregious – "выдатны, вялебны", што стаяла перад імём "Францыск" і было звычайным тады эпітатам для асобаў з унівэрсытэцкай адукацыяй. Тумаш першы заняўся навуковай праблемай дзейнасьці Ф. Скарыны ў Маскве, дасьледваў дрэварыты з выданьняў Скарыны, сабраў вялізную калекцыю мікрафільмаў Скарынавых друкаў. В. Тумаш удзельнічаў у падрыхтоўцы выставы пра Скарыну ў Нью-Ёркскай Публічнай Бібліятэцы з нагоды 450-годзьдзя беларускага друку ў 1967 годзе. Ім была складзеная грунтоўная бібліяграфія скарыназнаўства, "Пяць стагодзьдзяў Скарыніяны. XVI–XX", якую ў 1989 годзе выдалі калегі Тумаша па БІНіМу, Вітаўт і Зора Кіпелі.



*Вітаўт Тумаш, Вітаўт Кіпель і Антон Шукелойць у залі Нью-Ёрскай Публічнай Бібліятэкі.*

Савецкія правакацыі й шантаж папсавалі шмат здароўя В. Тумашу, асабліва падчас "беларускай" актыўнасьці фальсыфікатара Джона Лофтуса ў 1980-81 г.г. Тумаша дапытвала ФБР, аднак і яно ня выявіла ніякіх злачынных ці крымінальных фактаў у дзейнасьці Вітаўта Тумаша падчас Другой Сусьветнай вайны. Нягледзячы на гэта, імя Тумаша было анатэмай ў Беларусі ў савецкія часы, і ніколі ня згадвалася ў дачыненьні да скарыназнаўства. Яго абміналі шматлікія энцыкляпэдыі, даведнікі й скарыназнаўчыя публікацыі. Няшмат лепшы стан справаў і ў сёнешняй Беларусі, у якой, дарэчы, на "Ордэне Скарыны" дасюль стаіць непраўдзівае, але затое кашэрна-праваслаўнае расейскае імя "Георгій".

Навуковую, выдавецкую, арганізацыйную ды іншую дзейнасць доктара Вітаўта Тумаша раптоўна ў 1982 годзе перарваў інсульт, калі сталі адмаўляць вочы, і было амаль немагчыма чытаць, адбылася частковая страта памяці. Памёр Вітаўт Тумаш 27 красавіка 1998 году і быў пахаваны на беларускіх могілках у Іст-Бансўіку, Нью-Джэрзі. Па сабе В. Тумаш пакінуў дзяцей Яру, Галіну і Вітаўта, што вырасьлі беларускімі патрыётамі й далучыліся да грамадзкай дзейнасьці на чужыне, а таксама корпус працаў, што зрабілі б гонар цэламу навукова-дасьледчаму інстытуту.

***Віталь ЗАЙКА***

# “Галгатня пра ЗыШыА”

## Пра тое, як пасадзіць грушку, і аб тым, як прывязаць каня



На адной з канфэрэнцый славенскі філёзаф Славой Жыжэк выказаў тэорыю пра сувязь паміж архітэктурай і філязофіяй. Паводле ягоных словаў, тры вялікія эўрапейскія тэндэнцыі канца XVIII ст. знайшлі адлюстраваньне ў пабудове сваіх прыбірыльняў. Француззкае рэвалюцыйнае лявацтва рэпрэзентуе ўнітаз зь дзіркаю ззаду, што, паводле філёзафа, мае сымбалізаваць гільятыну. Англасаксонскую лібэральную памяркоўнасьць рэпрэзентуе ўнітаз, напоўнены вадою, у якім экскрэмэнты маюць права на свабоднае плаваньне. Нямецкі кансэрватызм і мэтафізыку прадстаўляе ўнітаз зь дзіркаю сьпераду і сымбалізуе нямецкае замілаваньне да герменэўтыкі, з магчымасьцю візуальнага і нюхавага абсьледаваньня калу на сьляды разнастайных захворваньняў. Жыжэк удакладняе, што гэта ўжо стары нямецкі тып, які ўсё часьцей саступае месца французскаму... Пра беларускі тып прыбіральні гаворка не вядзецца, але можам дадаць, што наш паўпрысед лічыцца нашмат здаравейшым для чалавечага арганізму, чым усе з пералічаных вынаходак вялікай эўрапейскай троіцы.

Да адной зь мясцовых дзевак з нашай вёскі, быў прыехаў жаніх амэрыканец. Цяпер усё сяло апавядае гісторыю пра тое, як аднойчы, пайшоўшы туды, куды нават кароль ходзіць пешкі, замежнік, доўгі час не вяртаўся. Пазьней выявілася, што бедачына беспасьпяхова шукаў матузка ад бачка з вадою.

У Амэрыцы, вядома, пераважвае англасакскі тып з напоўненым вадою ўнітазам. Для неабазнага беларуса, такі туалет можа падацца сапсаваным ці то забітым туалетнай паперай, бо для беларускіх гарадзкіх каналізацый, зь іх нізкім напорам вады, гэта рэч даволі характэрная.

Але асабіста мяне больш за ўсё зьдзіўляюць пашыраныя ў Амэрыцы бязводныя пісуары. Сьмярдзіць ад іх на кілямэтар, але затое карыстальнік можа атрымаць асалоду ад заашчаджанай колькасьці вады. Інфармацыя з указанай лічбай ўратаваных галёнаў на пэўную колькасьць аддадзенай мачы, горда віднее на наклейцы налепленай на версе сучаснага, праэкалягічнага пісуара. Кожны раз, карыстаючыся гэтым цудам тэхнікі, задаю сабе пытаньне, колькі ж галёнаў вады спатрэбіцца на тое, каб тую прыбіральню ізноў прывесьці ў парадак.

***Віталь ВОРАНАЎ***

---

**Уплаты ў Згуртаваньне**
**Ñêëàäê³ é àõâÿðàâàíüí³:**

**Т. Асташка** ....................50
**А. Бахчэеў** ....................50
**А. Зыль** .......................50
**К. Ліпская** ...................50
**В. Пакорская** ................50
**М. Папкова** ..................50

**Усім шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў аддзел шліце на адрас:**
*P. O. Box 572*
*New York, NY 10113*
**Чэкі выпісвайце на імя**
*Viktar Yedzinovich.*

***Шаноўныя сябры!***
*Калі ласка, сваечасова абнаўляйце падпіску на “Весткі й Паведамленьні”(**гл. інфармацыю аб апошнім ахвяраваньні на канвэрце справа ад прозьвішча**).*

---

# Наступны сход

**Згуртаваньня “ПАГОНЯ”** адбудзецца **ў суботу 14-га верасьня 2013 г. на прыродзе ў Сэнтрал Парку на Мангэтане.**

Месца правядзеньня сходу:
***Уваход у Парк на скрыжаваньні 5-й авэню і 72-й вуліцы.***

*Сход пройдзе на паляне на пагорку каля возера з чаўнамі (**The Lake with Boating**).*

*Паляна знаходзіцца на поўнач ад **Terrace Drive** і на захад ад **The Mall at Bethesda Fountain**.*

Збор: **а 10:30** раніцы.

-------------------

*Аб месцы і часе правядзеньня сходаў ды іншых імпрэзаў, ладжаных Згуртаваньнем “Пагоня”, можна даведацца, наведаўшы ў інтэрнэце ўэбстаронку **www.pahonia.org***

---

**Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:**

**А. Бахчэеў** ....................30
**В. Бітус** .......................30
**В. Зайка** .......................30
**А. Зыль** ........................30
**В. Міхайлава** .................30
**В. Пакорская** .................30
**М. Папкова** ...................30

**Шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь могуць усе зацікаўленыя даслаўшы аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*
***VIESTKI***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

*Чэкі з адзнакаю **“Весткі”** выпісвайце на імя скарбніка Згуртаваньня “Пагоня” **Viktar Yedzinovich**.*

*Падпіску таксама можна аформіць, наведаўшы ў інтэрнэце старонку **www.e-krama.com***